С каленъ падымемо Айчыну нашу мілую і будзем з ёю мы, а з намі будзе Бог!
Ларыса Геніюш

# ЗМАГАР

ВЫДАНЬНЕ СЛОНІМСКАЙ РАДЫ БНФ

ВЕРАСЕНЬ-ЛІСТАПАД 1998г. №3

На правах унутранай дакументацыі



# БЕЛАРУСКАМУ НАРОДНАМУ ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ" — 10 ГАДОЎ

**Дарагія суайчыньнікі!**

Дзесяць гадоў таму, 19 кастрычніка 1988 году, у Менску быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Як і іншыя народы, што стаміліся пакутаваць у савецкай камуністычнай няволі, беларускі народ выявіў сваю волю да Незалежнасьці і Свабоды праз масавы рух. Народны Фронт адразу стаў галоўнаю палітычнаю сілаю, што змагалася з аджылым камуністычным рэжымам за незалежнасьць Беларусі, за свабоду і дабрабыт кожнага яе жыхара.

Імя Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" ўжо згадваецца з павагай у праўдзівых падручніках гісторыі Беларусі. Бо менавіта Народнаму Фронту належыць заслуга раскрыцьця праўды пра маштаб і наступствы Чарнобыльскае катастрофы для Беларусі. Бо менавіта Народны Фронт усёй сваёй ахвярнай дзейнасьцю рыхтаваў вяртаньне незалежнасьці Беларусі. Народны Фронт распрацаваў юрыдычную базу для Дэкларацыі незалежнасьці краіны і для многіх асноватворных заканадаўчых актаў. Народны Фронт рабіў і робіць усё, каб ворагі ня зьнішчылі беларускую мову, культуру і гістарычную памяць. Народны Фронт першы галасна абвясьціў, што сапраўднае месца Беларусі — не ў падгнілай Расейскай імпэрыі, а ў дэмакратычнай і заможнай Эўропе. Народны Фронт упершыню галасна запатрабаваў выкананьня правоў і свабодаў чалавека ў Беларусі. Народны Фронт сабраў высокапрафэсійныя інтэлектуальныя сілы і ўклаў канцэпцыю вываду Беларусі з глыбокага эканамічнага крызысу, куды яе завяла злачынная прамаскоўская палітыка Кебіча і Лукашэнкі.

(Працяг на 2 ст.)

# У СЛОНІМЕ БНФ ЖЫВЕ І ДЗЕЙНІЧАЕ

Ва ўмовах дыктатуры, перасьледу сяброў БНФ, Слонімская арганізацыя працягвае змагацца за Бацькаўшчыну, за волю, незалежнасьць, матчыну мову. Улады пад рознымі выглядамі стараюцца зьнішчыць родную мову ў школах...

За прайшоўшыя дзесяць гадоў у нашай арганізацыі ёсьць свае посьпехі й свае няўдачы. Некалькі сяброў Слонімскай арганізацыі затрымліваліся міліцыяй у пастарунку больш 4 гадзін за распаўсюджваньне ўлётак. Былі выпадкі, калі некаторыя нашыя мерапрыемствы ўлады забаранялі. Баяцца.

Прапаную ўвазе чытачоў хроніку дзейнасьці Слонімскага Беларускага Народнага Фронту за апошнія гады.

10 сьнежня 1995 г. у пракуратуру г. Слоніма была пададзена скарга аб парушэньні Закона аб выбарах з боку асобных участковых і гарадзкой камісій.

26 красавіка 1996 г. у дзесятыя ўгодкі аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Слоніме быў праведзены мітынг-рэквіем, арганізаваны БНФ. На ім была прынятая наступная рэзалюцыя:

"1. Аказваць першачарговую медыцынскую дапамогу людзям, асабліва дзецям, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы.

2. Захаваць незалежнасьць Беларусі. Мы супраць розных саюзаў, інтэграцый і канфедэрацый з Расіяй. Мы за нейтральную Беларусь!

3. Тэрмінова спыніць ініцыяніраваны ўладамі працэс зьнішчэньня беларускай мовы".

12 траўня 1996 г. нашай арганізацыяй у горадзе быў праведзены пікет у абарону зьняволеных рэжымам

(Працяг на 2 ст.)

# ЯК МЫ ХАДЗІЛІ Ў ГАРВЫКАНКАМ

Гэта здарылася ў чэрвені 1996 года. Слонімцы атрымалі ад начальства чарговы "падарунак": дадатковую аплату за ацяпленьне кватэраў. Яно, начальства, гэта тлумачыла прыкладна так: маўляў, зіма выдалася халодная, адбыўся перарасход паліва, таму плаціце!

Людзі абураліся, бо зразумелі, што іх ашукваюць — выдаткі ўласнай безгаспадарчасьці хочуць пакрыць за іхні кошт. Тады ў мяне з'явілася думка: сабраць як мага больш людзей, незадаволеных такім рашэньнем мясцовых уладаў, і разам з імі схадзіць у гарвыканкам, да ягонага старшыні А. Лакцюшына. Слонімская Рада БНФ маю ідэю падтрымала.

Я пачаў рыхтаваць гэтую незвычайную акцыю. Знайшоў ініцыятыўных людзей і з іх дапамогай у мікрараёне вуліцы Яршова на дзьвярах пад'ездаў парасклейваў аб'явы. Яны заклікалі жыхароў у вызначаны час сабрацца каля дома нумар 38, каб потым адправіцца ў гарвыканкам і выказаць там нязгоду з дадатковай аплатай за ацяпленьне.

Нягледзячы на тое, што дзень быў рабочы, сабралося каля 60 чалавек: шмат жанчын, нямала пенсіянераў. Я яшчэ раз напомніў ім аб мэце нашага збору, і мы купкамі рушылі ў гарвыканкам. Прыйшлі туды адразу пасьля абеду, каб зьнянацку застаць начальства, бо ведалі: яно такую дэлегацыю не чакае.

Так яно і здарылася. У прыёмнай нас сустрэў крыкам узлаваны старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын. Яму не спадабалася, што мы прыйшлі да яго без папярэджаньня (маўляў, на прыём да яго трэба загадзя запісацца).

Тады сталі ціснуць на пярэднія шэрагі людзі, якія стаялі ў калідоры. Пачуліся незадаволеныя выкрыкі: — Да цябе прыйшоў народ, а ты не жадаеш яго выслухаць? Мы не пакінем будынак гарвыканкама!

Алег Мікалаевіч мусіў пайсьці на перамовы, якія вяліся ў калідоры. Ягоныя супрацоўнікі стараліся не высоўвацца з кабінетаў.

Выступаў ня толькі я. Знайшлося яшчэ некалькі мужчын і жанчын, якія даказалі старшыні, што прынятае рашэньне аб дадатковай аплаце незаконнае. Ён паабяцаў яго адмяніць, аб чым слонімцы неўзабаве прачыталі ў раённай газэце. А я прыйшоў да высновы, што разам, пераадолеўшы страх перад начальствам, мы можам перамагчы.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ




18 кастрычніка ў Менску на плошчы Якуба Коласа прайшоў мітынг, прысьвечаны 10-годдзю ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту. Падчас акцыі зьбіраліся подпісы за адстаўку прэзыдэнта, а таксама прымаліся заявы аб уступленьні ў БНФ. У мітынгу ўдзельнічала некалькі чалавек са Слоніма.

**А. Щ.**

На здымку: Менск. 18 кастрычніка 1998 г.

# ЧАМУ МЫ ПРАТЭСТУЕМ?

Апошнім часам усё часьцей парушаюцца нашыя правы. Улады нахабна парушаюць Канстытуцыю і законы. Зьніжаецца эканамічны і сацыяльны ўзровень жыцьця. Большасьць людзей ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі, жывуць ад зарплаты да зарплаты... Кожны дзень растуць цэны, а зарплата стаіць на месцы. Калі "мінімалку" падымуць на сто тысяч рублёў, дык цэны скокнуць на ўсе пяцьсот!

Мясцовыя ўлады, якія атрымліваюць заробак з нашых падаткаў, нешта ня надта варушацца ў справе паляпшэньня эканамічнай сытуацыі на Слонімшчыне, кожны раз спасылаючыся на недахоп грошай і "разрыў эканамічных сувязяў".

У той жа час вялікія сумы грошай выдаткоўваюцца на "эўрарамонт" уласных кабінетаў і на падобныя справы, ад якіх лягчэй простаму чалавеку не стане.

Згодна Канстытуцыі, мы маем права на бясплатнае лячэньне. Аднак пры ўладкаваньні на працу трэба заплаціць за медагляд. З прычыны таго, што ў бальніцах існуе вялікі недахоп лекаў, амаль увесь курс лячэньня трэба праходзіць са сваімі лекамі.

Па Канстытуцыі нам гарантуецца права на атрыманьне, захоўваньне і распаўсюджваньне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасьці дзяржаўных органаў, грамадзкіх аб'яднаньняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцьці, стане навакольнага асяродзьдзя. На самой жа справе шмат якую інфармацыю атрымаць немагчыма з прычыны манапалізацыі СМІ прэзыдэнцкай вертыкальлю. Па тэлебачаньню і ў дзяржаўных газэтах вядзецца мэтанакіраваная прапаганда супраць дэмакратычнай апазыцыі, якая настойвае на правядзеньні рынкавых рэформаў і за большае супрацоўніцтва з Заходняй Эўропай, з мэтай прыцягненьня ў рэспубліку замежных інвестыцый, новых сучасных тэхналогій, якія дазволяць падняць і ўмацаваць эканоміку Беларусі.

Зыходзячы з усіх пералічаных і іншых парушэньняў Канстытуцыі і закона, мы з дапамогай право-

*(Працяг на 4 ст.)*

# БЕЛАРУСКАМУ НАРОДНАМУ ФРОНТУ “АДРАДЖЭНЬНЕ” — 10 ГАДОЎ

Ня раз навуковыя прагнозы і папярэджаньні Народнага Фронту ўспрымаліся ўладамі ў штыкі. Афіцыйная прапаганда ад самага моманту заснаваньня БНФ і да сёньняшняга дня паклёпнічае на Народны Фронт і на яго кіраўнікоў, бо Народны Фронт **кажа праўду людзям.**

Народны Фронт папярэджваў, што Савецкі Саюз і камуністычная сыстэма разваляцца, і Беларусі трэба быць гатовай да пабудовы дэмакратычнае незалежнае дзяржавы. Камуністычныя ўлады супрацьстаялі гэтым непазьбежным працэсам, і ў выніку наша краіна эканамічна адстала ад краін, якія пайшлі шляхам пабудовы незалежнае дзяржавы і свабоднае эканомікі.

Народны Фронт прагназаваў, што Расея ня зможа ператварыцца ў сапраўды дэмакратычную дзяржаву, ня здолее рэальна аздаравіць эканоміку, не пераадолее сваіх імпэрскіх прэтэнзіяў. Але і ўрад Кебіча, і рэжым Лукашэнкі ўпарта зацягвалі Беларусь у “інтэграцыйныя” гульні з Масквой. Апошні расейскі крызыс паказаў нават самым даверлівым нашым суграмадзянам: ад Расеі сапраўды трэба трымацца далей.

Народны Фронт казаў напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў: грамадзяне, не галасуйце за Лукашэнку, бо гэта малаадукаваны і амбіцыйны чалавек, які можа прэтэндаваць на ролю дыктатара, але будзе марыянэткай Масквы. На жаль, многія, у тым ліку г. зв. дэмакратычныя палітыкі, вырашылі падтрымаць Лукашэнку. У выніку сёньня Беларусь уяўляе сабой бедную марыянеткавую дзяржаву з разваленай эканомікай і дыктатарскім рэжымам.

Сёньня галоўная задача Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне” тая самая, што і дзесяць гадоў таму: змагацца за інтарэсы беларускага народу, баронячы незалежнасьць Беларусі і дэмакратычныя каштоўнасьці.

Мы ўсьведамляем нашую адказнасьць і запэўніваем наш народ: Беларускі Народны Фронт даможацца таго, каб наша дарагая краіна пазбылася ганебнай дыктатуры, каб захавала і ўмацавала незалежнасьць, і ў якасьці шанаванай усімі дзяржавы вярнулася ў Эўропу, каб працьвітала непаўторная беларуская культура, каб у незалежнай Беларусі кожны сумленны чалавек мог жыць вольна і заможна.

**Сойм БНФ “Адраджэньне”**
**12 верасьня 1998 г.**

# У СЛОНІМЕ БНФ ЖЫВЕ І ДЗЕЙНІЧАЕ

кіраўнікоў фронту Вячаслава Сіўчыка і Юрыя Хадыкі. Сабраны сродкі для аказаньня матэрыяльнай дапамогі іх сем'ям.

Да Дня незалежнасьці 27 ліпеня 1996 г. быў праведзены гарадзкі мітынг, дзе ўдзельнікі прынялі наступную рэзалюцыю:

“1. Спыніць перасьлед незалежнай прэсы!

2. Патрабуем ад урада павышэньня пенсій, заработнай платы. Забясьпечыць працай беспрацоўных!

3. Спыніць перасьлед кіраўнікоў палітычнай апазыцыі!

4. У сувязі з тым, што прэзыдэнтам А. Лукашэнкам сыстэматычна парушаецца Канстытуцыя, правы чалавека, ідзе імклівае зніжэньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва, патрабуем адстаўкі прэзыдэнта. Заклікаем Вярхоўны Савет Беларусі пачаць працэдуру імпічмента прэзыдэнта”.

24 лістапада 1996 г. прэзыдэнтам праводзіўся фарс-рэферэндум з грубейшымі парушэньнямі (гарадзкая камісія ў Слоніме падпісала чыстыя пратаколы аб выніках галасаваньня ў час рэферэндума, а ў вобласьці ўжо паставілі неабходныя лічбы).

Аб гэтых і іншых парушэньнях была накіравана ў пракуратуру скарга. Вынік — нулявы. Воран ворану вока ня выклюе…

У чэрвені 1997 г. у Менску адбыўся пяты з'езд БНФ. Ад Слонімскай арганізацыі прымалі ўдзел у рабоце з'езда тры чалавекі.

25 студзеня 1998 г. Слонімскай Радай БНФ праведзена сустрэча кіраўніцтва БНФ “Адраджэньне” (Сіўчык, Беленькі, Саверчанка ды інш.) з насельніцтвам Слоніма.

У сакавіку 1998 г. Рада рыхтавалася да правядзеньня вечарыны з нагоды 80-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, але гарвыканкам забараніў правядзеньне вечарыны. Антызаконнасьць такога рашэньня прызнала нават пракуратура г. Слоніма.

У 1998 годзе Слонімская Рада Беларускага Народнага Фронту пачала выдаваць інфармацыйны бюлетэнь “Змагар”.

**Іван БЕДКА,**
**старшыня Слонімскай**
**Рады БНФ з 1995 г.**

## З АРХІВА



***Першы мітынг, арганізаваны Слонімскай Радай БНФ. Выступае Мікалай Ракевіч. Лістапад 1989 г.***

# ЧАМУ МЫ ПРАТЭСТУЕМ?

дзімых акцый пратэсту, мітынгаў, пікетаў (пікет — гэта публічнае выражэньне грамадзянамі грамадзка-палітычных, групавых, прыватных і іншых інтарэсаў ці пратэста, у тым ліку шляхам галадоўкі, па якіх-небудзь праблемах з выкарыстаньнем ці без выкарыстаньня плакатаў, транспарантаў і інш. сродкаў) імкнемся прыцягнуць увагу грамадства да парушэньняў правоў чалавека і пагаршэньня эканамічнай сытуацыі, з мэтай аб'яднаць сілы і намаганьні, каб шырокім фронтам выступіць у абарону агульных інтарэсаў.



Пікет у Слоніме, 1996 г.

Улады баяцца шырокага масавага супраціву з боку насельніцтва, і для таго, каб пратэст не набыў масавага характару, улады распаўсюджваюць розную хлусьлівую інфармацыю пра тое, што "апазыцыі нехта плаціць" і за ёю "нехта стаіць". Гэтым самым яны паказваюць сваю бездапаможнасьць і няўменьне кіраваць. Уся іхняя ўлада трымаецца на запалохваньні, хлусьні і абяцанках. Нас кожны дзень палохаюць звальненьнем з працы, абяцаюць, што вось-вось мы зажывем лепш, аднак лепш усё не становіцца.

Гэтае прававое безгранічча будзе цягнуцца датуль, пакуль мы не аб'яднаемся, каб выступіць у сваю абарону. Не чакайце пакуль нехта пачне пратэставаць, самі праяўляйце больш ініцыятывы і вядзіце за сабой іншых!

**Алесь МАРАЦ**

# ЯК І ЧЫМ ЖЫВЕ НАША ВЁСКА

Наш народ жыве і працуе не дзеля сваёй карысьці і дабрабыту, а для начальства. Начальства жыруе, а ён гаруе... Чалавек на вёсцы ніяк не можа пазбавіцца апекі начальства на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў. Яшчэ знакаміты расейскі паэт А. Пушкін пісаў:

*Здесь барство дикое без чести, без закона*
*Присвоило себе насильственной лозой*
*И труд, и собственность, и время земледельца...*

А што змянілася з таго часу ў нашай цяперашняй вёсцы? Ды нічога! А калі нешта і зьмянілася, дык у горшы бок. Прыгонны селянін, у адрозьненьне ад калгасьніка, карыстаўся надзелам зямлі ў 20-30 га, меў гаспадарчыя пабудовы, рабочую жывёлу (коні), інвентар. Ён мог працаваць 3-4 дні на сваёй гаспадарцы, а то і ўвесь тыдзень, заплаціўшы аброк. А як пачувае сябе сёньняшні калгасьнік? У яго, па сутнасьці, нічога няма. Ён паслухмяны падзёншчык. За яго працу ў калгасе плацяць столькі, колькі захоча начальства. Ён ня мае права пратэставаць супраць свайго жабрацтва. Інакш на яго пасыплюцца рэпрэсіі: не дадуць каня дроў прывезьці, не дадуць сена, а ў недалёкім мінулым і ў турму можна было трапіць на доўгі тэрмін... Яго "соткі" садзяцца ў апошнюю чаргу. Ды і ня дзіва, што нізкі ён атрымлівае ўраджай.

Цяпер нашая вёска стаіць на мяжы выміраньня. У вёсцы засталіся, у асноўным, пенсіянеры, якія дажываюць век, а прытоку маладой рабочай сілы няма. Моладзь па-ранейшаму бяжыць з вёскі не ад добрага жыцьця... І прычына тут, вядома, не ў развале Саюза. Тое самае было і пры Саюзе. Моладзь ужо ня хоча працаваць задарма, дзеля цэлай зграі начальнікаў-нахлебнікаў.

У селяніна адабралі самае асноўнае — зямлю, сферу прыкладаньня яго працы. Калгасьнікі працуюць на агульны кацёл, а катлом гэтым распараджаецца начальства. У іх самая высокая зарплата і вялікая ўлада, бо яны распараджаюцца зямлёй. Яшчэ амерыканскі эканаміст і публіцыст Г. Джордж больш чым сто гадоў таму назад пісаў: "Адбярыце ў чалавека ці народа грошы, тавары, жывёлу і ваша грабежніцтва скончыцца разам з вашым адыходам. Але адбярыце ў народа зямлю, і ваша грабежніцтва будзе працягвацца вечна". Гэта вялікая хлусьня начальства, што селянін цяпер не захоча ўзяць зямлю ў сваё карыстаньне. Нездарма прэзыдэнт А. Лукашэнка на нарадзе ў Гродне сказаў: "Аддадзім зямлю сялянам — страцім уладу на вёсцы". Вось у чым сутнасьць справы. Хто валодае зямлёй, той і камандуе падзёншчыкамі-калгасьнікамі!...

Мне могуць запярэчыць: "Глядзіце, дзяржава дала зямлю фермерам, а тыя праз некалькі год адмаўляюцца ад вядзеньня самастойнай гаспадаркі, не хочуць працаваць на зямлі". Правільна робяць фермеры, што адмаўляюцца працаваць са стратамі для сябе. Улады выдзяляюць ім самую няўдобіцу ў аддаленнай мясцовасьці, іх задушваюць падаткамі, ставяць у дыскрымінацыйнае становішча ў параўнаньні з калгасамі, якім дзяржава шчодра кідае фінансы. Але яны зьнікаюць, як у той багне. Аддача мізерная...

Паглядзіце на статыстыку. У індывідуальным карыстаньні 10% усёй зямлі. А даюць яны 45% мяса, 50% малака, 80% гародніны і 90% садавіны. Калгасы не могуць у дастатковай колькасьці забясьпечыць наш рынак прадуктамі харчаваньня, хоць і валодаюць 90% ўсёй зямлі. Параўнайце ўраджайнасьць зерневых культур: па 80-90ц з гектара ў краінах, дзе пануе фермерства і не праводзяцца селектарныя нарады прэзыдэнтамі, а калгасы нашай рэспублікі — па 18-25 ц/га, і то ня могуць сабраць у час бяз вялікіх страт.

Многім людзям ужо зразумела, што будучыня сельскай гаспадаркі за індывідуальнымі ўласьнікамі зямлі. НЭП і сусьветны фермерскі вопыт даказаў гэта. Не ад дабра кожны год Савецкі Саюз з яго калгасным ладам стала закупляў не адзін дзесятак мільёнаў тон зерня ў фермераў іншых краін.

Можа будучыня нашай краіны і нацыі з'явіцца толькі тады, калі мы пачнем думаць уласнай галавой і пазбавімся ад паганятых з пугай?

**Мікалай РАКЕВІЧ**

**ЗМАГАР**

Выданьне Слонімскай Рады БНФ.
Выходзіць з 1998 г.
Кантактныя тэлефоны:
2-27-45, 3-12-84.

Рэдактар Паўлюк ДУБІНА
Наклад 299 паасобнікаў.